№ 94 (1907)
Чацвер, 27 мая 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +16...+18, сонечна, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +13...+15, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +13...+15, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +11...+13, уначы — +8...+10, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — +14...+16, сонечна, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў.

www.meteo.by



## З прызначэннем!

***ІВАН БАМБІЗА* прызначаны** намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь (раней ён узначальваў канцэрн "Белнафтахім").

Міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання прызначаны **Леанід Русак** (у 2003 годзе — старшыня Мінскага райвыканкама). У сваю чаргу, ***ВАСІЛЬ ДВАРАНІНОВІЧ*** вызвалены ад пасады міністра сельскай гаспадаркі і харчавання "ў сувязі з выхадам у адстаўку".

***ГАННА ДЗЕЙКА*** прызначана міністрам па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь (раней — намеснік міністра па падатках і зборах);

***РАМАН УНУЧКА*** — членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (раней — віцэ-прэм'ер урада Беларусі);

***МІХАІЛ САВІЧ*** — намеснікам старшыні Дзяржаўнага ваеннапрамысловага камітэта Рэспублікі Беларусь (раней — начальнік штаба войск СПА Беларусі).

**Дадзена згода прэзідэнта на прызначэнне:**

***БРАНІСЛАВА СІВАГА*** — старшынёй Беларускага дзяржаўнага канцэрна па нафце і хіміі "Белнафтахім" (раней — гендырэктар ААТ "Шкловалакно");

***ІНЫ МЯДЗВЕДЗЕВАЙ*** — намеснікам міністра статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь (раней узначальвала галоўнае ўпраўленне статыстыкі прадпрыемстваў і паліўна-энергетычнага комплексу Мінстата);

***МІХАІЛА РЫМЖЫ*** — намеснікам міністра аховы здароўя — галоўным дзяржаўным санітарным урачом Рэспублікі Беларусь (раней — галоўны спецыяліст па эпідэміялогіі і прафілактыцы ўнутрыбальнічных інфекцый Міністэрства аховы здароўя);

***МІХАІЛА ЮХІМУКА*** — намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама;

***МІКАЛАЯ ТОКАРА*** — старшынёй Жабінкаўскага райвыканкама (Брэсцкая вобласць);

***ВІКТАРА ВІЛЬЧЫКА*** — старшынёй Дзятлаўскага райвыканкама (Гродзенская вобласць);

***МЕЧЫСЛАВА ГОЯ*** — старшынёй Смаргонскага райвыканкама (Гродзенская вобласць);

***АЛЯКСАНДРА ІЛЬЯНАВА*** — старшынёй Бялыніцкага райвыканкама (Магілёўская вобласць);

***УЛАДЗІМІРА ДАНІЛЕНКІ*** — старшынёй Слаўгарадскага райвыканкама (Магілёўская вобласць);

***ІГАРА РАДЗЮКА*** — старшынёй Стаўбцоўскага райвыканкама (Мінская вобласць);

***МІКАЛАЯ ПАНЦЯЛЕЯ*** — кіраўніком адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Мінска;

***АНАТОЛЯ БУЛЫНЯ*** — дырэктарам дэпартамента па меліярацыі і воднай гаспадарцы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання;

***СВЯТАСЛАВА ШКОЛЫКА*** — генеральным дырэктарам дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна дакладнага машынабудавання "Планар" — дырэктарам рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Завод дакладнага машынабудавання "Планар-ТМ".

## Акцыя «Дзіцячае сэрца» пройдзе ўвосень

Правядзенне чарговага этапу дабрачыннай акцыі "Дзіцячае сэрца" запланавана на верасень-кастрычнік 2004 года. Яе арганізатарамі традыцыйна выступаюць Беларускі дзіцячы фонд (БДФ) сумесна з Міністэрствам аховы здароўя Беларусі пры падтрымцы грамадскага аб'яднання "Мінскі ротары-клуб", прадстаўніцтва Ірландскай дабрачыннай арганізацыі "Chernobyl children's project" і міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Сафія". У рамках гэтай акцыі беларускія хірургі сумесна з высокакваліфікаванымі спецыялістамі з міжнароднай брыгады спецыялістаў-кардыёлагаў на чале з доктарам Вільямам Новікам правядуць складаныя аперацыі на адкрытым сэрцы дзецяміінвалідам з Беларусі з прыроджанымі парокамі сэрца.

**Вольга АСІПЕНКА.**

SOS!

## Банкам предложили оказать колхозам скорую помощь

**Ольга ТОМАШЕВСКАЯ**

Правительство Беларуси обратилось к банкам, уполномоченным выполнять государственные программы, с просьбой о предоставлении сельскохозяйственным предприятиям льготных кредитов на сумму 100 млрд. рублей.

Предполагается, что ставка по кредитам составит одну треть ставки рефинансирования, а сами кредиты будут выдаваться под гарантии правительства. Компенсировать банкам две трети ставки рефинансирования и рекомендованный размер маржи планируется за счет уточнения показателей республиканского фонда поддержки сельхозпроизводителей. Все кредиты должны быть выделены к 1 сентября 2004 года. Сельхозорганизации должны будут рассчитаться по ним до 1 сентября 2006 года.

Правительство намеревается направить кредитные средства на реконструкцию и техническое перевооружение животноводческих, молочнотоварных и птицеводческих ферм, а также тепличных комплексов.

Петр Прокопович: Впрягайтесь, ребята, спасем село...

По мнению эксперта Независимого института социально-экономических и политических исследований **Валерия Дашкевича,** уполномоченные банки, хоть и без большого энтузиазма, могут выполнить просьбу правительства. В то же время эксперт "Белорусских новостей" отметил, что "наличие таких кредитов не радует банки". "Это ухудшает балансы банков, и в случае изменения ситуации в экономике они могут оказаться в сложном финансовом положении, они будут первыми кандидатами на банкротство", — считает Валерий Дашкевич.

Эксперт предполагает, что в результате оказания очередной помощи сельскому хозяйству банки вынуждены будут отвлекать средства, которые могли бы пойти на кредитование прибыльных проектов.

"Я бы хотел обратить внимание на два момента. В результате предоставления такого рода кредитов ресурсная база банков сжимается, то есть сокращаются объемы ресурсов, которые могли бы быть выделены прибыльным предприятиям. Что касается льготной процентной ставки, то в постановлении указаны источники компенсации средств для банков, что позволяет надеяться, что они не сильно пострадают. С другой стороны, в силу убыточности белорусского сельского хозяйства есть опасность, что кредиты снова достанутся тем сельхозпредприятиям, которые не в состоянии их погасить. В качестве гаранта выступает правительство, но оно часто затягивает исполнение своих обязательств", — сказал Валерий Дашкевич в интервью "Белорусским новостям".

*("Белорусские новости".)*
**Коллаж Александра СИЛИЧА.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Што там, за Бугам?

### 1 чэрвеня ў Мінску адкрываецца 5-я нацыянальная выстава «Бізнес-Польшча»

БИЗНЕС ПОЛЬША
'2004
МИНСК
1–4 июня 2004

Што там, за Бугам? Такое пытанне часта задаюць тым, хто вярнуўся з суседняй краіны. І нездарма. Перамены ў Польшчы відавочныя, яны выклікаюць у нас вялікую цікавасць. А вось інфармацыі аб іх не хапае. Запоўніць інфармацыйны вакуум і заклікана нацыянальная выстава "Бізнес-Польшча", якая будзе праходзіць у Мінску 1—4 чэрвеня гэтага года.

Дык што ж новае, арыгінальнае змогуць пабачыць наведвальнікі на ёй? Ды многае. Свае вырабы прадставяць каля 140 польскіх фірм. Прадпрыемства "Чарнецкі і сын" паказвае абутак. Ды не абы які, а ўласнага дызайну. Нездарма іх вырабы ідуць на экспарт. Фірма "KWADRAT" прадстаўляе багаты выбар біжутэрыі — бранзалетаў, завушніц, кліпсаў... Нібыта ўсё знаёмае. Але... Вырабы зроблены па эскізах выдатных мастакоў. І таму гэта не проста прыгожыя рэчы, а сапраўдныя творы мастацтва. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зірнуць на дэкаратыўныя нажы, каробкі для сігар ці банкнотаў. Акцыянернае таварыства "DERMIKA" дэманструе высокага класа касметыку. Яна зацікавіць тых жанчын, якія сур'ёзна сочаць за апошнімі тэндэнцыямі ў сферы амаладжэння свайго твару. Для іх паслуг — 72 касметычныя прэпараты для ўходу за скурай у хатніх умовах і 94 — для 12 працэдур у касметычных салонах.

На выставе прадстаўлены унікальныя вырабы мэблі, тэкстылю, будаўнічых матэрыялаў, харчовай прамысловасці.

Выстава — не толькі паказ вырабаў і дэманстрацыя магчымасцяў краіны. Гэта месца для сустрэч, дыскусій, перамоў, кантрактаў... Таму на прэс-канферэнцыі, якая ладзілася ў Пасольстве Польшчы ў Беларусі, ішла размова аб беларуска-польскім супрацоўніцтве: яго дасягненнях і рэзервах. Пасол суседняй краіны Тадэвуш Паўляк адзначыў, што развіваецца яно даволі плённа. Так, летась гандлёвы абарот вырас амаль на 60 працэнтаў. Польшча стала адным з асноўных знешнегандлёвых партнёраў Беларусі, заняўшы 4-е месца ў беларускім знешнім гандлі пасля Расіі, Германіі і Вялікабрытаніі.

Аднак рэзервы яшчэ не малыя. Адзін з іх — слабая інфармаванасць дзелавых колаў, аб чым сказана вышэй. Другая перашкода — мяжа. Яе перасячэнне выклікае шмат цяжкасцяў. Ужо з'явіўся выраз аб тым, што наша мяжа — гэта "граніца для багатых". Візу купі, за страхоўку заплаці, ды яшчэ ў кішэні трэба мець пэўную суму грошай на кожны дзень. Складзеш усё разам і атрымоўваецца немалая сума, асабліва для простага грамадзяніна. Шмат праблем у фірм, якія вязуць свае тавары ў Беларусь. Амбасадар Польшчы спадар Паўляк лічыць, што адпаведнае ведамства павінна, не адкладваючы на доўгі час, вырашыць згаданыя праблемы.

А яшчэ турбуе польскіх бізнесоўцаў непастаянства сітуацыі, заканадаўства. Вось днямі была нарада на высокім узроўні аб рабоце свабодных эканамічных зон. На ёй агучаны патрабаванні, якія выклікалі занепакоенасць замежных фірм. Была ў эканамічных зонах адна сітуацыя, цяпер, выходзіць, яна істотна мяняецца. Для рынка такія выкрунтасы непрымальныя. Сітуацыя павінна быць стабільнай.

Няўпэўненасць выклікае будаўніцтва саюза Беларусі і Расіі. Калі Беларусь далучыцца да Расіі, дык ці застануцца льготы ў эканамічных зонах ці не? А калі Беларусь і Расія "разыходзяцца", то ці не зменіцца практыка экспарту ва ўсходнюю краіну? Невядома.

Падобныя ды іншыя цяжкасці тармозяць развіццё супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі, якія маюць арыгінальныя рэзервы. Палякі могуць мець немалую карысць з супрацоўніцтва Беларусі і Расіі, а Беларусь — з супрацоўніцтва Польшчы з краінамі Еўрапейскага Саюза. Было адзначана, што ўступленне Польшчы ў Еўрапейскі Саюз паляпшае сітуацыю для беларускага экспарту. Справа за тым, каб паспяхова скарыстаць новыя магчымасці.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

## Stop, NATO!

Адзіная рэгіянальная групоўка войскаў Беларусі і Расіі знаходзіцца на "вельмі высокім узроўні" гатоўнасці і здольная супрацьстаяць "рэальнай ваеннай небяспецы". Такую думку выказаў намеснік начальніка Генеральнага штаба Узброеных сіл па навуковай працы Міністэрства абароны Беларусі Юрый Партноў, выступаючы ў Мінску на пасяджэнні "круглага стала" па пытаннях выпрацоўкі адзінай знешняй палітыкі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Мерапрыемства было арганізавана Парламенцкім сходам Саюза Беларусі і Расіі.

На думку Ю.Партнова, небяспека Саюзнай дзяржаве можа зыходзіць ад блока NATO, што прасунуўся на Усход. Пра гэта, як мяркуе намеснік начальніка Генеральнага штаба, сведчыць і ўдзел сіл Паўночнаатлантычнага альянсу ў шэрагу рэгіянальных ваенных канфліктаў. "Мы ў любым выпадку будзем уцягнуты калі не ў прамую ваенную сутычку, то ў канфлікт нацыянальных інтарэсаў", — сказаў Ю.Партноў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

БІЗНЕС-ЛЕДИ

## *Хеди РЭТНЕР:* «20 лет назад только 5 процентов бизнеса в Америке принадлежало женщинам»

***На прошлой неделе белорусскую столицу посетила известная бизнес-вумэн Америки — Хеди Рэтнер. Среди многочисленных встреч с белорусскими предпринимателями, участия в первом Форуме женщин-предпринимателей Беларуси была запланирована и встреча Хеди с журналистами. Речь на ней шла о развитии женского предпринимательства в США.***

Очаровательная Хеди впервые в Беларуси, хотя давно мечтала побывать в Минске. В белорусской столице родился ее отец. Еще до революции, женившись на красавице-польке, он эмигрировал в США. Хеди и ее сестра родились на чужбине.

В годы Великой Отечественной войны погибли все минские родственники семьи Рэтнер. Связь с родиной прекратилась...

— Я счастлива, что наконецто я в Минске, в этом красивом, зеленом городе с красивыми людьми, — американская улыбка не сходит с лица Хеди. — Я приехала не только посетить родину своего отца, но и встретиться с белорусками, которые занимаются бизнесом. Я приехала их ободрить, рассказать, какой нелегкий путь становления прошел женский бизнес в США.

Хеди Рэтнер у себя на родине возглавляет Центр развития женского бизнеса, один из крупнейших центров США с годовым бюджетом в 2,5 миллиона долларов. Вместе с партнером она открыла его 20 лет назад, чтобы оказывать консультативную помощь американкам, решившим заняться бизнесом. К слову, сегодня в Соединенных Штатах Америки работает 60 таких центров.

В 1989 году Хеди получила награду "Женщина-предприниматель года". В 1996 году она была включена в список 100 наиболее влиятельных женщин Чикаго. Президент Билл Клинтон назначил Хеди членом Государственного совета по женскому бизнесу.

— В начале 70-х годов в США всего 5 процентов бизнеса принадлежало женщинам, — рассказывает Хеди. — Сейчас — около 50 процентов. 18 миллионов рабочих мест создано благодаря усилиям женщин.

Когда мы начинали работать, банки страны не рассматривали женщин как надежных партнеров и не хотели давать кредиты. Благодаря усилиям неправительственных женских организаций в США было создано Федеральное управление по вопросам малого бизнеса, которое выступает поручителем в банке. Сегодня женщина-бизнесмен может получить ссуду в Федеральном резервном банке США. Я знаю, что в Беларуси нет такой практики, когда Национальный банк инвестирует средства в малые предприятия, которые принадлежат женщинам.

В США действует закон, который обязывает крупные государственные корпорации покупать 5 процентов того, что произведено женщинами-предпринимателями.

**— Насколько тяжело было добиться этих льгот?**

— Очень тяжело. Например, в США на протяжении 30 лет действовал закон, который обязывал все банки страны поддерживать развитие социальной сферы. Но эта помощь ограничивалась только кредитами на приобретение или строительство жилья. И только за последние 15 лет данное требование было распространено и на коммерческие кредиты. И опять-таки благодаря усилиям женщин-предпринимателей и женских неправительственных организаций.

**— Американские бизнесвумэн реализуют себя в чисто женских направлениях бизнеса или посягают на серьезные сферы экономики?**

— Женщины-предприниматели представлены в различных секторах американской экономики: и в строительстве, и в агробизнесе. Но, конечно, женщинам проще открывать свое дело в той области, которая им ближе, — в сфере предоставления услуг и розничной торговле. Фитнесцентрами и салонами красоты в Америке владеют в основном представительницы прекрасной половины человечества.

Наиболее динамично в последние годы развиваются "женские" предприятия, численность служащих на которых около 100 человек, а объем продаж — более миллиона долларов в год. На протяжении последних нескольких лет количество таких предприятий выросло на 40 процентов.

**— Но если все так благополучно, то почему сегодня женский бизнес в Америке нуждается в поддержке?**

— Потому что ни в одной стране мира не созданы равные условия для мужчин и женщин, решивших открыть свое дело или уже работающих в частном бизнесе. Например, в США до сих пор труднее получить корпоративные контракты или государственные правительственные заказы предприятиям, во главе которых стоят женщины, чем тем предприятиям, которыми руководят мужчины.

Сегодня наш Центр и другие неправительственные женские организации лоббируют интересы "женских" предприятий, на которых трудятся сто и более человек. Рассматриваются вопросы о создании для них налоговых льгот и еще больших возможностей для получения кредитов и ссуд.

**— Хеди, на Ваш взгляд, есть ли какое-то обязательное условие, без соблюдения которого женщине не стоит начинать свой бизнес?**

— Я могу давать только рекомендации. Мой опыт подсказывает, что обычно первые годполтора, как бы успешно ни шло дело, оно не дает прибыли, и у предпринимателя нет возможности "взять" часть средств из дела. Надо рассчитывать так, чтобы на это время работы вам хватило начального капитала.

**— Как, на Ваш взгляд, развивается женский бизнес в Беларуси?**

— Он только начинает развиваться...

**— Хеди, а Вы согласились бы наладить свой бизнес в Беларуси?**

— Надо подумать...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

З ЗАЛЫ СУДА

## Адкупіліся

У акно бальнічнай палаты закінула сонечнае праменне ясная веснавая раніца. Выдавала, што надвор'е будзе цёплае. Стары Міхась Кудзелька, якога ўрач меўся сёння выпісаць, не радаваўся ні цяплу, ні святлу. Ён сядзеў на ложку, паклаўшы рукі на мыліцы, што стаялі паабапал тулава: відаць, наважыўся выйсці з палаты, ды не асмельваўся. Ужо некалькі тыдняў мінула, як яму ампутавалі нагу, зацягнулася рана, а ён усё ніяк не мог прывыкнуць да свайго калецтва. А яшчэ больш дзеда Міхася душыла думка пра адзіноту і бездапаможнасць. Дзве дарослыя дачкі, якія жылі ў тым жа горадзе на Віцебшчыне, пасля таго як бацька занямог, пачалі адносіцца да яго з прыкметным халадком, і ў старога чалавека былі падставы думаць, што дочкі кінулі яго на волю лёсу.

— Паедзем, тата, на тваю радзіму, на Дзятлаўшчыну, — паведамілі неўзабаве скалечанаму бацьку.

— Чаго? — не зразумеў той.

— А таго, што ты там цяпер будзеш жыць.

— Дзе жыць? Як?

— Да сястры тваёй цябе завязём. Яна няхай і даглядае.

— Дык сястра ж сама старая і ў яе свая сям'я ёсць...

Дочкі не прымалі ніякіх довадаў. Яны прывезлі нямоглага бацьку да такой жа нямоглай цёткі, а самі зноў сабраліся на родную Віцебшчыну.

— Што ж я з ім буду рабіць? — спытала на развітанне цётка. — Не змагу дагледзець...

— А не зможаш, то завязі ў вашу, бацькоўскую, хату і няхай там жыве. Яна ж яшчэ не развалілася, тая хата.

Нейкі час дзед Міхась жыў у сястры, а потым яна і сапраўды завезла яго на бацькоўскае селішча. Даглядаць яго за 100 тысяч рублёў платы ў месяц згадзілася адна вясковая жанчына. Калі сястра наведвалася да брата, то бачыла ў яго вачах смяротную тугу. Няцяжка было здагадацца, адкуль гэта туга бралася: выгадаваў дзвюх дачок, што называецца, у людзі вывеў, як меў здароўе, дапамагаў, чым мог, а яны яго, можна сказаць, пад плот выкінулі. Вось і зыходзіла горкімі слязамі бацькоўскае сэрца.

— Падай на іх у суд, — прапанавала аднойчы сястра. — Уся твая аплата ідзе на аплату сядзелкі. Нават на лекі грошай не застаецца, не тое што на прадукты ці такую-сякую вопратку. Па законе ж яны павінны цябе даглядаць. Я сама паеду ў суд.

І старая жанчына выбралася з далёкай вёскі ў Дзятлаўскі суд, расказала там пра гора, што напаткала брата.

Справе далі ход. Быў вызначаны дзень судовага разбору. Аб гэтым паведамілі на Віцебшчыну Міхасёвым дочкам, павесткамі выклікалі на пасяджэнне. Але яны абедзве, безумоўна, згаварыўшыся, прыслалі ў суд паперы: "У сувязі з занятасцю на працы прыехаць не можам. Просім разгледзець справу без нас. З іскам згодны. Прэтэнзій не маем" (праўда, такое пісала кожная асобна). Словам, дочкі Міхася Кудзелькі згодны былі плаціць любыя грошы на ўтрыманне бацькі-калекі, але каб толькі не бачыць і не чуць яго.

Суд спагнаў з іх у сукупнасці крыху больш за 100 тысяч рублёў. Гэтыя грошы стары бацька будзе плаціць старой жанчыне за тое, што тая яго даглядае, а пенсію пусціць на іншыя патрэбы.

Такім чынам дочкі дзеда Міхася адкупіліся ад яго, лёгка і проста спіхнуўшы на рукі чужога чалавека. Яны будуць працаваць, спакойна спаць, смяяцца, у той час як бацька адзінока гібее ў пустой хаце. Сядзелка ж пры ім не пастаянна. У яе ёсць і свае клопаты. Аб чым думае дзед Міхась, калі зачыняюцца за гэтай спагадлівай жанчынай дзверы? Якія турботы не даюць яму заснуць? Здагадацца няцяжка.

**P.S.** Імя і прозвішча старога чалавека зменены. Не хачу прычыняць горшага болю, бо яму і так балюча.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

Народная Воля 27 МАЯ 2004 г.

РУБАМ!

# За што хапаецца п'яны?

Апошнім часам зноў загаварылі аб прывязцы беларускага рубля да расійскага. У канцы мінулага месяца аб гэтым паведамлялі адказныя асобы Нацыянальнага банка краіны. Называлася нават дата прывязкі, з 1 ліпеня сёлетняга года. І "прывязваць" збіраюцца не проста так, а "жорстка". Пры гэтым некаторыя эканамісты і банкіры сцвярджаюць пра вялікую карысць, якую прынясе краіне гэтая "жорсткая прывязка" беларускага рубля да расійскага.

У такіх спадароў хочацца спытаць: "За што хапаецца моцна п'яны, каб не ўпасці?" Той п'яны, які ледзь трымаецца на нагах і ўжо слаба кумекае? Ён хапаецца рукамі не за такога ж п'янага сябрука, як сам, а за плот ці слуп. Бо нават і ён, у алкагольным ачмурэнні кумекае, што п'яны сябрук — ненадзейная апора, разам з ім можна плюхнуцца ў лужыну. А вось плот, слуп — добрая апора, бо стаяць на зямлі надзейна.

Тое ж і ў жыцці, у тым ліку і ў сферы фінансаў. Які сэнс прывязвацца да расійскага рубля, які сам вагаецца перад доларам і еўра і ў любы момант можа ўпасці? Ці не лепей было б прывязацца да долара ці еўра, як гэта зрабілі нашы некаторыя суседзі і партнёры па былым лагеры сацыялізму? Іхняя прывязка паспрыяла ўмацаванню іх нацыянальных валют. А што прынясе наша?

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

СЛЫШАЛИ?

# В обход

**Похоже, уроки из «газовой атаки» сделали только «Газпром» и некоторые западные потребители. Но не Беларусь.**

На недавней пресс-конференции руководители "Газпрома" заявили, что они направят все силы на строительство газопроводов в обход Беларуси. Судя по всему, это вовсе не дипломатический ход. Североевропейский газопровод должен быть построен приблизительно к 2007—2008 году и стать альтернативой белорусскому маршруту российского газа в Европу. К тому же руководство "Газпрома" сообщило, что к концу 2004 года будет полностью завершено строительство газопровода Ямал—Европа, который проходит через территорию Беларуси, но принадлежит исключительно "Газпрому". По словам заместителя председателя правления "Газпрома" Александра Рязанова, сейчас проблема в том, что на этом газопроводе недостроены несколько компрессорных узлов, функции которых временно выполняет "Белтрансгаз".

Рязанов также сообщил, что от конфликта "Газпрома" с Беларусью больше не будут страдать Литва и Калининградская область. "Газпром" намерен построить ответвление газопровода из Литвы в Калининград, принять участие в строительстве больших подземных хранилищ газа в Литве, а также "подключить" потребителей этой страны к Североевропейскому газопроводу.

Некоторые СМИ сообщили, что немецкие бизнесмены предложили приложить все усилия для скорейшего создания российско-украинского газотранспортного консорциума и строительства североевропейского газпрома, который не будет проходить по территориям ненадежных стран-посредников.

"Газпром" также приступает к реализации проекта по более эффективному использованию подземных газохранилищ на территории Польши для обеспечения стабильного газоснабжения Западной Европы в случае необходимости. Договоренность об этом достигнута с польскими партнерами.

Только из Беларуси не видно и не слышно озабоченности в поиске "другой, альтернативной трубы". Видимо, страна настолько привязана к российской трубе, что не может даже и подумать о какой-то другой. Но в таком случае в "одно прекрасное время" всей нашей экономике может быть труба.

**Сергей ИВАНОВ.**

РЕЗОНАНС

# Зачем нам мертвая вода?

*Так называлась статья депутата Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва, пенсионера МВД Владимира Станкевича, опубликованная в "Народной воле" 20.03.04 г. В ней подняты проблемы сохранения рыбных запасов в водоемах страны и борьбы с браконьерством. Выступление не оставило читателей равнодушными. Они высказывают свои предложения по решению важной проблемы.*

## Милиционер возле каждого озера?

Давайте попробуем потянуть за ниточку и размотать весь клубок проблем мертвой воды. На территории Беларуси насчитывается свыше 20 тысяч рек и более 10 тысяч озер. Площадь водного зеркала основных рек (Западная Двина, Неман, Днепр, Припять, Западный Буг) составляет 1028 км², площади озер — 2258 км² и водохранилищ 259 км² (по состоянию на 1976 г.). Это без учета площади остальных рек и водоемов. Если бы с одного гектара вылавливали по 500 кг рыбы, то на каждого белоруса выходила бы рекомендуемая норма потребления рыбы и рыбопродуктов: по 16 кг в год.

В 50-е годы прошлого века на Припяти ежегодно вылавливали рыбы более 6 ц с километра, а современные рыбхозы могут выращивать рыбы еще больше. При правильной организации рыбного хозяйства естественные и искусственные водоемы могут давать высокую рыбопродуктивность.

Ветеран МВД В.Станкевич считает: "А если учесть, что в инспекторы по охране природы зачастую идут неподготовленные, случайные люди, то получается совсем не радостная картина. Впрочем, кому охота за мизерную зарплату идти на весьма опасную работу, пожалуй, не менее опасную, чем у сотрудника милиции". Добавим, что и пенсия у них не милицейская.

Если поставить на каждое озеро и на каждый километр реки по одному милиционеру, то их потребуется сотни тысяч. За год они вполне смогут посадить в тюрьмы тысячи браконьеров. Это такую охрану нужно иметь, чтобы на белоруса вырастало по 16 кг рыбы. А нужна ли она будет с такими затратами?

Милиции у нас и так хватает, в тюрьмах сидят тысячи, причем государство не может придумать, какой работой загрузить заключенных. Благие пожелания не всегда ведут в рай. Сторожей прибавится, а рыбы вряд ли.

Уже к середине 90-х годов прошлого века, по статистическим данным, в водоемах Беларуси было немало нефтепродуктов. Рыбу из такой воды есть нельзя, и рыборазведение в такой воде, по советским нормам, не допускалось. Во многих водных объектах и без нефтепродуктов вода мертвая. Стоит ли увеличивать охрану, сажать в тюрьмы браконьеров за ловлю рыбы из мертвой воды? Вылавливая и съедая такую рыбу, во вред своему здоровью, они дают возможность другим белорусам дожить до пенсии.

Где же хозяин белорусских водных объектов, почему он не занимается реабилитацией водных объектов с мертвой водой? Где же водоохранные зоны, лесопосадки вдоль водных объектов и дорог, где реабилитация водных объектов? Где путь развития совместимый с природой?

Что-то похожее уже проходили. Так, в одно время электрифицировали деревни. Вроде бы благое дело. Но вырезали в деревнях липы, которые мешали тянуть провода и вкапывать столбы. Потом никто не занялся посадкой новых деревьев. Не появились деревья вдоль дорог. Стали больше занимать сельскохозяйственных земель под сахарную свеклу. После этого подрубили, ставшее убыточным, пчеловодство, за природоохранные деньги закупали пестициды для сельского хозяйства. Сократилось потребление меда, а возросло — сахара, появились новые болезни.

Вода становится мертвой от нежелания по-хозяйски использовать ее ресурсы во благо общества.

**Михаил БИРИЦКИЙ,**
**ветеран труда,**
**бывший заведующий лабораторией регулирования водных экосистем Научно-исследовательского института Комплексного использованиях водных ресурсов Минприроды Беларуси.**



## Какую рыбу поймает внук?

Статья В.Станкевича "Зачем нам мертвая вода" меня сильно тронула. Он прав, необходимо бороться с браконьерством. Но, на мой взгляд, этого мало. Да, есть водоемы, где осталась лишь "сорная" рыба: колючка, ерш, уклея, пескарь и прочая мелочь, которая подрывает кормовую базу для более ценных пород. Но кроме браконьеров есть еще сточные воды от производств, которые делают водоемы мертвыми. С ними тоже надо бороться.

Хочу обратить внимание на зарубежный опыт, о котором мне рассказал бывалый любитель поудить рыбу. Арендатор, или собственник, содержащий водоем с ценными рыбами, любителю за небольшую цену половить в его водоеме. Можно получить у него приманку и удочку. Если выловил рыбу, можешь ее отпустить, а если берешь с собой — оплачиваешь ее стоимость. Если хочешь — ее приготовят тебе тут же за небольшую плату.

У нас уже есть кое-что в этом направлении. Есть арендаторы. Они борются с браконьерами днем и ночью, продают более-менее товарную рыбу. Есть надежда, что они позаботятся об улучшении породистости рыб в своих водоемах. В этом вопросе должны сыграть свою роль рыборазведенческие хозяйства. Возможно, надо помочь таким хозяйствам, как наше Березовское, где разводят такие ценные породы, как белый амур, толстолобик, карп. Там же разводят карася, щуку, которые тоже весьма полезны в рыбном хозяйстве. Побольше бы таких рыборазведенческих хозяйств.

Наконец, нужно привлечь энтузиастов в деле рыборазведения. Мы с сыном, не будучи арендаторами, при скромных финансовых средствах, нашли возможность выделить 125.000 рублей на приобретение в Березе 6 кг годовалого белого амура и толстолобика, которыми зарыбили одно мертвое озеро. Лет через 10—15 мой внук выловит здесь рыбину и получит удовольствие. Кому дорога природа, пусть сделают что-то подобное, и мертвой воды не будет.

С уважением

**Михаил ХОХА.**

*Гродно.*

## Контракты: перед пенсией не увольнять

Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь разработало рекомендации по предотвращению и устранению негативных социальных последствий при переводе работников государственных организаций на контрактную форму найма. В частности, в них предполагается заключение контракта на срок, предусмотренный законодательством, — от одного года до пяти лет. С работниками предпенсионного возраста — женщинами 53 лет и мужчинами 58 лет — контракт должен заключаться не менее чем на срок, оставшийся до достижения общеустановленного пенсионного возраста. В случаях, если срок контракта истекает в период беременности и родов, а также во время отпуска по уходу за ребенком до 3 лет, рекомендуется перезаключать или продлевать контракт на срок не ранее достижения ребенком трехлетнего возраста. Кроме того, рекомендации Минтруда предусматривают обязательное участие профсоюзов при обсуждении содержания контракта с работником.

*praca-by.info*

## Средняя пенсия

| Страна | Сумма средней пенсии в евро |
|---|---|
| Словения | 325,4 |
| Польша | 200 |
| Венгрия | 116,7 |
| Беларусь | около 50 |

СЛЫШАЛИ?

## В третьем квартале Нацбанк начнет девальвацию белорусского рубля к российскому

*В третьем квартале текущего года Национальный банк Беларуси будет осуществлять девальвацию белорусского рубля к российскому в соответствии с Основными направлениями денежно-кредитной политики страны. Такая договоренность достигнута в Гомеле в ходе очередного заседания Межбанковского валютного совета Союзного государства, сообщили РИА "Новости" в пресс-службе Национального банка Беларуси.*

Заседание прошло под руководством глав Центральных банков Беларуси и России Петра Прокоповича и Сергея Игнатьева. В пресс-службе сообщили также, что центральные банки начинают подготовку материалов к очередному заседанию Совета министров Союзного государства.

Сначала материалы по вопросу готовности сторон к введению российского рубля в качестве платежного средства на территории Беларуси будут представлены в национальные правительства двух стран, а затем на заседание Союзного правительства, которое пройдет 8 июня в Минске, сообщили в пресс-службе Нацбанка.

Профильным подразделениям центральных банков двух государств поручено доработать документы о порядке осуществления межбанковских расчетов в платежной системе Союзного государства, иных нормативных актов, сообщили в белорусском главном финансовом ведомстве.

Очередное заседание Межбанковского валютного совета намечено провести в конце третьего квартала нынешнего года в России.

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# Капрамонт

Паважаныя кватэранаймальнікі! Ці ведаеце вы пра тое, як уваходзіць "капрамонт" у нашы ўтульныя кватэркі шматпавярховак? Калі дазволіце, я прапаную Вам невялічкую замалёўку з уласнага вопыту.

Здаецца, мы ўдзельнічалі ў эксперыменце па выжыванні ў экстрэмальных сітуацыях. Нам давялося прайсці тэст на трываласць псіхікі, раскрыць невычэрпныя здольнасці чалавечай прыроды, бязмежны патэнцыял беларуса, яго дзіцячую веру ў навядзенне парадку, безвыніковыя пошукі праўды сярод чыноўнікаў і, урэшце, спадзяванне толькі на свае (заўважце!) не галаву, горла ці доўгі язык, а працоўныя рукі.

...Трубы пачалі мяняць з першага паверха і далей. Таму на працягу тыдня заходзіць у прыбіральню было вельмі рызыкоўна. Пэўны час мы жылі без вады. Не толькі без гарачай і халоднай, але і без умывальнікаў і ваннаў. Затое колькі іх было пакідана-пакінута каля пад'езда: падышоў да акна і любуйся, калі ласка, цэлая выстава. Камусьці пашчасціла пабыць без вады ўсяго толькі тыдзень, а каму і два. А якія бясплатныя лічыльнікі на ваду. Адна жанчына казала, што навучылася мыць посуд так, каб яе лічыльнік у гэты час не круціўся. Атрымліваецца — бясплатна. Праўда, здараюцца і адваротныя выпадкі: пенсіянер вадой не карыстаецца, а лічыльнік працуе на ўсю моц, нібы зачараваны.

Потым паставілі лічыльнікі і на газ. Таксама бясплатна. Відаць, гэта была своеасаблівая ўзнагарода за тое, што доўга чакалі падключэння газу. Тэрмін выжывання без газу складаў у сярэднім паўтара месяца. Прытым некаторыя кватэранаймальнікі цяпер ужо самі расцягвалі межы эксперымента: ніяк не наважваліся заключыць дамову на карыстанне газам. А без абавязковай дамоўленасці з дзяржавай некалькіх "несвядомых элементаў" — ніяк! Вось усім астатнім і даводзілася чакаць. Што ж зробіш?! За гэты час умывальнікі і ванны кудысьці зніклі, а іх месца пад вокнамі занялі старыя газавыя пліты. Такім чынам, паўгода мы маглі бясплатна мець перад вачыма самыя апошнія постмадэрновыя краявіды.

Пра працу капрамонтнікаў. Адразу клалі толькі адзін рад пліткі, а потым суткі чакалі, ці не абваліцца. Аднаму чалавеку яны паклалі плітку і атрымалі разлік. Але праз тры дні амаль уся яна ў ванным пакоі паабвальвалася і пабілася. Другі чалавек таксама аказаўся вельмі даверлівым: заплаціў грошы наперад і пасля доўга чакаў, бегаў, нешта некаму даказваў, спрачаўся, сварыўся...

Увогуле, мы ўжо даўно прызвычаіліся бачыць кожную раніцу бабулю, жанчыну, мужчыну, якія пільнуюць начальніка ці чарговую камісію, каб паскардзіцца. Але ўсё дарэмна. Так і вяртаюцца яны дадому, распавёўшы сваю крыўду...

Праз месяцы наша нервовая сістэма ўжо больш спакойна рэагавала на стукат і грукат. Мы менш злавалі і спадзяваліся толькі на сябе. Але тады пан "капрамонт". Ён увайшоў у калідор і пачаў бяліць столь, фарбаваць сцены. Першай не вытрымала прыбіральшчыца. Паколькі бялілі і фарбавалі ў хаатычным парадку (адразу на ўсіх паверхах і так цэлы месяц), яна стамілася і пакінула змагацца за чысціню. А нас чакалі новыя сюрпрызы.

Абарвалі провад ад дамафона. Тройчы. Дайшла чарга да тэлефоннага провада: кабеты-маляры так старанна шкрэблі сцены, што разам з пабелкай сашкрэблі, ці лепш сказаць "адкусілі", гэты металічны дрот. Прывесці да ладу ўласнымі сіламі яго не ўдалося. Выклікалі тэлефонных майстроў, яны загадалі мяняць усю праводку. Яшчэ пажартавалі: дзякуйце, што хоць радыё размаўляе. Дык праз месяц змоўкла і радыё...

...Доўга год жалезныя дзверы ў нашым пад'ездзе не зачыняліся. А зусім нядаўна памянялі кодавую дамафонную сістэму, без папярэджання, таму патрапіць у пэўны час не маглі не толькі чужыя, але нават і свае. Вось такія рамонтныя турботы.

**Т.ДЗЯДЗЮЛЯ.**

*Мінск.*

# Так в чем же хранить сбережения: в долларах или евро?

*Прогнозы 50 «китов» мировой финансовой индустрии*

К концу этого года курс евро может подняться до уровня 1,36 доллара. А может и упасть до отметки 1,07. Но средний ожидаемый курс составляет умеренные 1,24 доллара за евро. Таковы результаты опроса валютных трейдеров и управляющих валютными активами 50 крупнейших банков, проведенного агентством Bloomberg.

Среднее арифметическое 50 взглядов на будущее доллара, выраженных главными игроками мирового валютного рынка, выглядит неожиданно взвешенно. Последнее время рынок жил в предчувствии стремительного падения доллара относительно корзины главных мировых валют.

Для этого у его участников было по крайней мере две причины. Учетная ставка Федеральной резервной системы (ФРС) США, равная сейчас 1%, остается на самом низком уровне с 1958 года, и ее повышение ожидается не раньше первых месяцев 2005-го. Низкая стоимость кредитов отбивает у иностранных инвесторов желание покупать активы, номинированные в долларах, например, долговые обязательства американских корпораций. Другой фактор удешевления доллара — рекордный дефицит текущего счета платежного баланса Соединенных Штатов, учитывающего финансовые трансакции и внешнюю торговлю. В прошлом году он достиг 541,8 млрд. долларов. Гипнотическое действие этих двух показателей не было ослаблено даже тем фактом, что после прошлогоднего 17-процентного падения относительно евро доллар вырос за первые три месяца этого года на 2,3%, а сообщения о быстром росте занятости в США, появившиеся в апреле, почти удвоили этот выигрыш.

Несмотря на такое развитие событий, киты мировой финансовой индустрии сохранили невозмутимость и продолжают придерживаться своих прежних оценок. Нью-йоркская Citigroup, крупнейшая инвестиционная компания планеты, ведущая вторую по объемам валютную торговлю, ожидает, что через год курс американской денежной единицы составит 1,32 доллара за евро. Франкфуртский Deutsche Bank, делавший в конце прошлого года самые точные валютные прогнозы, на конец этого прогнозирует примерно такое же соотношение — 1,33 доллара за евро.

Как считает Майкл Розенберг, глава нью-йоркского отдела исследований валютного рынка Deutsche Bank, свой вклад в ослабление доллара внесет, как ни странно, даже усиление американской экономики. По его мнению, оно вызовет в США рост спроса на импортные товары. А это, в свою очередь, приведет к очередному увеличению внешнеторгового дефицита. В отличие от многих других Розенберг полагает, что уже к декабрю учетная ставка ФРС вырастет до 1,5%, но и это "слишком маленький шаг", учитывая соотношение рисков и преимуществ инвестирования в американскую экономику. За ближайшие пять лет пресловутый дефицит во внешней торговле США вырастет с 4,9% до 8% ВВП. В течение двух-трех лет, считает он, это должно привести к падению доллара на 20—30%.

Самой радикальной точки зрения придерживается японский Mizuho Corporate Bank, прогнозирующий обесценивание мировой валюты до 1,36 доллара за евро. Почти такой же прогноз у J.P. Morgan Chase, HSBC и BNP Paribas — 1,35 доллара за евро.

Однако из этого слаженного хора выбивается голос диссидентов, участие которых и скорректировало общий итог. Самый решительный из них — Fortis Bank. По его оценке, доллар заметно вырастет и встретит новый год на отметке 1,06 доллара за евро. Предполагаемая причина — будущее сокращение разницы учетных ставок ФРС и Европейского центрального банка.

## Новы аўтацэнтр

*Афіцыйны дылер "Форд Мотарс" на беларускім рынку кампанія "Ліберці Мотарс", што ўваходзіць у склад холдынга "Атлант-М", адкрыла ў Мінску новы аўтацэнтр.*

Як паведаміў рэгіянальны кіраўнік холдынга "Атлант-М" Віктар Астрэйка, адкрыты ў Мінску аўтацэнтр поўнага цыклу гатовы прапанаваць кліентам новыя аўтамабілі, а таксама якаснае абслугоўванне і сервіс. Інвестыцыі холдынга "Атлант-М" у стварэнні аўтацэнтра склалі каля 1 млн. долараў ЗША.

Летась у Беларусі было прададзена каля 200 новых аўтамабіляў "Форд", у тым ліку, 86 — цераз "Ліберці Мотарс". Сёлета кампанія "Ліберці Мотарс" прадала ўжо 50 машын. Усяго, паводле ацэнак прадстаўнікоў кампаніі, у 2004 годзе ў Беларусі будзе прададзена каля 400 аўтамабіляў "Форд".

**Аляксей АРЭШКА.**

## З пачатку года спажывецкія цэны ўзраслі на 7,5 працэнта

З пачатку года спажывецкія цэны ўзраслі на 7,5 працэнта (за аналагічны леташні перыяд — на 11,1).

Афіцыйны прагноз інфляцыі на 2004 год складае 14—18 працэнтаў. Такім чынам, прагноз "выкананы" на 54 працэнты па ніжняй планцы і на 42 працэнты па верхняй.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

АВТОРИТЕТНОЕ МНЕНИЕ

# Диагноз и рецепты Милтона Фридмана

*Недавно в Москве состоялась международная конференция "Либеральная программа для нового века: глобальный взгляд".*

Интересно, что ее открыл... Милтон Фридман, лауреат Нобелевской премии по экономике, самый авторитетный в мире экономист. Правда, открыл не "живьем", а в видеозаписи. Но это сути не меняет. Интересно и полезно его суждение. Ведь именно по его рецептам выросли многие "экономические тигры".

В своем выступлении он дал оценку и советы России, но они полезны и Беларуси. Так что же сказал Милтон Фридман?

Он вынес окончательный приговор плановой экономике: "естественный эксперимент между коллективистским обществом и обществом свободных рыночных отношений" закончился не в пользу первого. Затем поставил главный вопрос: как строить истинно либеральную модель экономики? И сам же на него ответил, заодно признав свои ошибки: "Когда пятнадцать лет назад меня впервые спросили об этом, у меня был простой, бесхитростный ответ, состоявший из трех слов: приватизация, приватизация, приватизация. Опыт минувших лет, однако, показал, что это был упрощенный ответ. Его следовало расширить по крайней мере еще двумя пунктами: обеспечение правовых рамок для частной собственности и обеспечение разумно стабильной денежно-кредитной политики".

Затем нобелевский лауреат назвал еще один немаловажный для России пункт: надо сокращать долю госрасходов в экономике, особенно странам, идущим от плана к капитализму. Причем равняться надо не на нынешний объем госрасходов в развитых странах (например, в США он составляет 40% ВВП), а на тот уровень, который был у них много лет назад, тогда он не превышал 10%.

Советник российского президента Андрей Илларионов согласился с выводами Милтона Фридмана и сделал анализ развития мировой экономики. Из его доклада следовало, что те страны, которые в последние 50 лет четко следовали названным Милтоном Фридманом рецептам да еще ликвидировали барьеры во внешней торговле, показали чудеса экономического роста. Например, на Тайване ВВП на душу населения за 50 лет вырос в 18 раз (для сравнения: в России за 100 лет — всего в 2,4 раза). В то же время во многих странах этот показатель упал из-за того, что они не расширяли экономическую свободу.

Почему экономический рост России несоизмерим с тайваньским? Одну из главных причин, по мнению участников конференции, назвал Милтон Фридман: это неудовлетворительное обеспечение правовых рамок для частной собственности.

В ходе конференции было отмечено: чрезмерное госрегулирование порождает коррупцию, расширение монопольного сектора, к тому же при нем не работает судебная система, законы не выполняются. Что в конечном счете блокирует развитие экономики.

**Сергей ИВАНОВ.**

МЕРКАВАННЕ

# Чыноўнік ці гаспадар, або Як рэфармаваць вёску?

Шмат разоў кіраўнікі Беларусі давалі народу абяцанні, што ў хуткім часе будзе забяспечана прыярытэтнае развіццё сяла і створана багацце танных прадуктаў харчавання. Такія ж абяцанні гучаць і сёння з вуснаў высокага начальства. На самай жа справе амаль нічога не зроблена, каб сапраўды забяспечыць прыярытэтнае развіццё сельскай інфраструктуры.

Замест абяцанага багацця таннага харчавання ў краіне назіраецца спад аб'ёмаў сельгасвытворчасці і высокі рост цэн на прадукты. Сельскія гаспадаркі, за невялікім іх выключэннем, апынуліся на мяжы фінансавага банкруцтва. У іх няма ўласных грошай на набыццё тэхнікі, запчастак, угнаенняў, паліва. Адным словам, апынуліся кармцелі краіны, а значыць, разам з імі і ўсе мы ля разбітых ночваў.

Давайце ж паразважаем аб прычынах таго эканамічнага крызісу і аб шляхах выйсця з яго. Звернемся да лепшага вопыту заходніх краін, дзе аграрны сектар дзейнічае стабільна і высокаэфектыўна. Там ад 30 да 60 працэнтаў фермерскіх даходаў складваюцца за кошт праграм дзяржаўнай дапамогі, хаця мяса, малака і іншых прадуктаў у тых краінах досыць. Наш жа ўрад за апошнія гады дазволіў сабе некалькі разоў абрабаваць беларускіх сялян на мільярды рублёў, прымусіўшы іх прадаць сваю прадукцыю па жорстка фіксаваных цэнах.

Сёння ўсе слаі насельніцтва зацікаўлены ў хутчэйшым выхадзе з крызісу. А ён у сельскай гаспадарцы знаходзіцца на шляху зямельнай рэформы, рэфармавання адміністрацыйна-каманднай сістэмы, пры якой хлебароб не з'яўляецца гаспадаром на зямлі, а наёмным падначаленым работнікам, які і зарабляе мала і працуе кепска. Вопыт працы па-новаму ёсць. Гэта калгас "Рассвет" імя Арлоўскага. Вось яго і трэба распаўсюджваць. Ды фарміраванне шматукладнай рынкавай эканомікі ў аграпрамысловым сектары ідзе надзвычай марудна. У многім гэта абумоўлена тым, што ў краіне адсутнічае заканадаўства, якім рэгулюецца працэс прыватызацыі прадпрыемстваў АПК з улікам іх спецыфікі.

Хачу адзначыць, што прыватызацыя сельскагаспадарчых прадпрыемстваў не ставіць сваёй мэтай раздзел маёмаснай уласнасці на дробныя абасобленыя вытворчасці. Галоўная яе задача — змена форм вытворча-эканамічных адносін у гаспадарках, павышэнне эканамічнай матывацыі вытворцаў, захаванне буйной вытворчасці на новай якаснай аснове шляхам пераўтварэння наёмнага работніка ў працаўніка-ўласніка.

Сусветны вопыт сведчыць, што кааперацыя ў большасці сваёй выступае як форма сумеснай дзейнасці ўласнікаў — членаў калектыву. У гэтай сувязі нашы сельскія гаспадаркі не прадстаўляюць сабой кааператываў таму, што маёмасць у іх абагульнена і часткова адзяржаўлена. Нельга мірыцца з сітуацыяй, калі група кіраўнікоў гаспадарак, прыкрываючыся "нічыйнай" агульнай калектыўнай уласнасцю разбазарвае сродкі, нажытыя працоўнымі калектывамі, дзеля асабістай нажывы.

Лічу, што найлепшым выйсцем са становішча з'яўляецца прыватызацыя гаспадарак і іх трансфармацыя ў эканамічна-жыццяздольныя фермерскія асацыяцыі і кааператывы. Члены гаспадарак самі змогуць прымаць на работу і звальняць кіраўнікоў, якія будуць адказваць за якасць, захаванне, перапрацоўку і продаж выпрацоўваемай прадукцыі. Такім чынам, асноўнай мэтай для іх стане эканамічна выгадная вытворчасць высакаякаснай прадукцыі як для ўнутраных, так і для знешніх спажыўцоў. Тыя члены гаспадаркі, якія не хочуць прымаць удзел у вытворчасці сельгаспрадукцыі, атрымаюць магчымасць здаваць свае ўчасткі зямлі ў арэнду і працаваць у сферы перапрацоўкі або збыту. А будучы акцыянерамі разлічваць на сваю долю прыбытку!

На мой погляд, законы аб зямлі, аб уласных фермерскіх гаспадарках, сельскагаспадарчых банках і крэдытах, падаткаабкладанні, прыватнай уласнасці на зямлю патрабуюць перагляду, бо існуючыя з'яўляюцца тормазам эканамічных рэформ АПК. Маё меркаванне: ва ўмовах рынкавай эканомікі калектыўная сельская гаспадарка не можа дасягнуць поспеху. Хіба ж не бачна, што калектыўная арганізацыя працы па адзіным плане вядзе да адных і тых жа сумных вынікаў: згортвання ініцыятывы і прадпрымальнасці, распаўсюджвання безадказнасці чыноўнікаў, раўнадушша да працы, фарміравання ўтрыманскай псіхалогіі. І наадварот: асабістая праца ў прыватнай гаспадарцы выратавала нас ад вымірання. Зараз мы бачым згубныя вынікі, нанесеныя сельскай гаспадарцы валюнтарызмам некаторых палітыкаў, і іх трэба тэрмінова выпраўляць.

**Алесь ЗАРАНОК,**
**эканаміст.**

*Калінкавіцкі раён.*

